ДАЕШЬ КОНСТИТУЦИЮ!

# КОГДА НОВОЕ — ХОРОШО ЗАБЫТОЕ СТАРОЕ

**МИХАИЛ ПЛИСКО,**
**народный депутат Мингорсовета, заместитель председателя Объединенной демократической партии Беларуси.**

## ЕЩЕ РАЗ О СМЫСЛЕ МЕСТНОГО САМОУПРАВЛЕНИЯ

ВИДИМО, ни одна из тем не вызывала столько дискуссий, бесчисленного множества статей и даже научных сборников. Казалось бы, уже всем все должно быть ясно. Но чем больше читаешь, тем больше убеждаешься, что в отношении к данной теме в наиболее чистом виде сохранился старый подход. Чтобы ощутить смысл местного самоуправления и не плутать в трех соснах, нужно предварительно обговорить исходные концептуальные посылки, которые бы красной нитью проходили не только через текст раздела о местном самоуправлении, но и всего проекта Конституции.

В первую очередь необходимо определиться: считать ли местное самоуправление органом государственной власти или нет. Является ли оно продолжением парламента и правительства, только на местном уровне, или нет. Если да, то почему местные органы власти не имеют права принимать законы? Если они государственные органы, то почему параллельно им в некоторых странах есть институт специальных представителей, выступающих от имени государства (префекты и т. п.)? Государство контролирует государство?

Несмотря на эти явно бросающиеся в глаза особенности властных полномочий органов местного самоуправления, ревнители «нового» подхода к этой проблеме сводят ее фактически к вопросу о разграничении функций между высшими и низшими органами государственной власти. Если последовательно идти по этому пути, то как тогда новоявленные реформаторы смогут обосновывать недопустимость отмены вышестоящими органами государственной власти решений нижестоящих? В том-то и дело, что парламент и правительство являются органами государства, а местное самоуправление — гражданского общества. Если этого четко не представлять, современные подходы останутся новыми песнями на старый лад.

На первый взгляд, вопрос о том, является ли местное самоуправление органом государственной власти — вопрос отвлеченный. На самом деле это далеко не так. Если основой самоуправления станет идея разграничения власти — тогда все может быть поставлено с ног на голову, ибо гражданское общество, которое возвело над собой по своей воле государство, само может попасть в унизительную зависимость от него. В этом случае для самоуправляющихся территорий будет действовать принцип: запрещено все, что не разрешено законом. А оговорить все, чем можно заниматься местной власти, в Конституции практически невозможно. Если же в местном самоуправлении видеть властные органы гражданского общества, то тогда, наоборот, уже для государства будет действовать этот запретительный принцип. Поэтому для общества в Конституции лучше оговорить все, чем может заниматься государство. Только в этом случае оно будет зависеть от людей, а не наоборот. Как видим, речь идет не об отвлеченной игре слов.

Придерживаясь такого подхода, можно будет наконец решить неразрешимую для приверженцев разграничительного подхода задачу, а именно: на деле гарантировать формирование бюджета снизу доверху и тем самым обеспечить финансовую основу самоуправляющихся территорий. Одновременно это позволило бы стабилизировать бюджет государства, поскольку не дает возможность парламенту произвольно устанавливать расходы, а потом под них подстраивать налоговую систему и печатный станок.

Концептуально раздел о местном самоуправлении должен быть похожим на раздел об основных правах и свободах человека. Он призван не только провозгласить, но и гарантировать основные неотъемлемые и неотчуждаемые права самоуправляющихся территорий. Споры, которые будут возникать между государственной властью и местным самоуправлением, должны решаться органами судебной власти на основе Конституции и законов.

Конкретные вопросы, которые касаются организации и деятельности местного самоуправления, целесообразно изложить в отдельном законе. Поэтому данный раздел должен излагать только основные принципы и называться не «Местное самоуправление», а «Основы местного самоуправления».

## ПОЧЕМУ В ПРОЕКТЕ КОНСТИТУЦИИ НЕТ РАЗДЕЛА [ГЛАВЫ] «ПЕРЕХОДНЫЕ ПОЛОЖЕНИЯ»?

КАК ПРАВИЛО, в конституциях цивилизованных стран есть раздел (глава), в котором регулируется порядок введения Основного Закона в действие. Так, например, в нынешнем проекте содержится положение о всенародном избрании президента (ст. 99). Однако нигде не говорится, когда эта статья вступает в действие. То же самое можно сказать и о статье, предусматривающей право выбора места жительства в пределах республики, а также возможности покидать ее и беспрепятственно возвращаться обратно. Если она будет принята на предстоящей сессии, это будет означать вступление ее в силу. Однако всем ясно, что реализовать эти права в настоящее время не представляется никакой возможности, как впрочем и других декларативно провозглашенных социальных прав.

Странно было бы не указать в этом разделе (главе) и предельный срок принятия новых законов, отсылки к которым содержатся в проекте Конституции. Иначе может случиться история, произошедшая с Конституцией 1977 г., в которой хоть и содержалась статья о всенародном голосовании (референдуме), но соответствующий закон был принят только в 1990 г. Также в этом разделе (главе) необходимо указать, в течение какого срока все существующие на данный момент нормативные правовые акты должны быть приведены в соответствие с Конституцией Республики Беларусь. Впрочем, что можно записать в этом разделе (главе), секрета особого ни для кого не составляет. Достаточно хотя бы бегло просмотреть конституции зарубежных стран. Не думаю, что этого не понимали члены Конституционной комиссии. Дело, видимо, не в этом, а в политическом нежелании высшего руководства, ибо тогда нужно было бы окончательно определиться по вопросу о дальнейшем существовании Верховного Совета. Открыто записать, что депутаты нынешнего состава сохраняют свои мандаты до окончания срока, на который они избраны, вроде бы не с руки. Это явно не прибавило бы очков руководству и всему Верховному Совету, особенно на фоне подготовки демократическими силами референдума. Ведь легитимность парламента и без того шаткая. Поэтому «отцы белорусской конституции» нашли довольно оригинальный выход: вместо «Переходных положений» они ограничились... предисловием т. Шолодонова В. И. к опубликованному проекту. Совсем как в известной пословице: и овцы целы, и волки сыты.

В заключение хочу сказать, что, вероятно, лучшим выходом из сложившейся ситуации был бы самороспуск Верховного Совета и принятие новой Конституции уже новым, вполне легитимным и готовым для этого, парламентом. В конце концов надо помнить, что Конституция — не перчатки и её нельзя часто менять.

АДУКАЦЫЯ: ЗАДАННЕ НА ЗАЎТРА

**ТАІСА ХАРТАНОВІЧ,** аглядальнік «ДВ».

**Школа — міні-дзяржава. Руплівая выхаванка дзяржавы вялікай, старанная пераемніца яе традыцый, не найлепшых, аказалася, на жаль. Але вельмі і вельмі трывалых. Дагэтуль пільна ахоўвае адладжаную гадамі сістэму, у якой інтарэсы дзяцей нязменна застаюцца другараднымі. Хай не крыўдзяцца таленавітыя настаўнікі, разумныя, памяркоўныя кіраўнікі школ, якіх даволі шмат. Мы кажам увогуле пра той рэжым найменшага спрыяння, які і іх заціскае ў рамкі, не дае вольна дыхаць і працаваць.**

**Школа дайшла да апошняй мяжы. І сведчанне таму бясконцыя сігналы SOS, што ідуць у рэдакцыю, стосы скаргаў у камісію гарсавета па выхаванню і адукацыі, гарадское ўпраўленне адукацыі. Без адказу яны не засталіся. Упраўленне адукацыі горада абвясціла накірунак — на гуманізацыю школы. Ідэяй «фікс» паціху ахрысцілі гэты крок праціўнікі змен. «Некалі трэба пачынаць» — упэўнены энтузіясты новай праграмы. Яны і сабраліся на сустрэчу ў гарадскім упраўленні адукацыі. Усіх цікавіла, ці сапраўды рэальная намечаная мэта пры захаванні ранейшага кіраўніцтва школ з псіхалогіяй жорсткага дыктату і ўсеагульнага паслушэнства, ці магчыма вось так раптам загадаць: усміхніся, школа, і стань чалавечнай! І яна стане!**

# УСМІХНІСЯ, ШКОЛА!




**Генадзь Дылян,** начальнік гарадскога ўпраўлення адукацыі.

— Вельмі цікава выглядае сёння наша школа. З аднаго боку, бачны вялікія перамены. За апошнія тры-чатыры гады школа памяняла накірунак сваёй дзейнасці, амаль усе пачалі працаваць дыферэнцыравана, дзесяткі — па арыгінальных вучэбных планах, 15— з музычна-харавым ухілам. Ёсць школы з агульнаэстэтычным ухілам. У гэтым годзе з'явіліся тры школы са шматпрофільным дыферэнцыраваным навучаннем. Гэта натуральны працэс, і прагрэсіўны. Але ўсё ж ішла толькі арганізацыйная перабудова школьнай сістэмы, і ні педагагічныя калектывы, ні органы кіравання, па сутнасці, не звярталі ўвагі на чалавечыя ўзаемаадносіны ў школах. Не займаліся гуманізацыяй вучэбна-выхаваўчага працэсу. Тое самае датычыцца і садкоў, і ПТВ.

Факты і прыклады гавораць аб тым, што гэтыя ўстановы пакуль што далёка не для дзяцей. Таму і прапанавалі мы — наша ўпраўленне і інстытут удасканальвання настаўнікаў — праграму гуманізацыі. Мы стварылі творчыя групы, апрабавалі некаторыя палажэнні праграмы ў асобных школах. Урэшце аб праблеме загаварылі. Двойчы абмяркоўвалася яна з дырэктарамі школ і ПТВ. І вось да жніўня праграма гуманізацыі школ горада на гэты навучальны год была гатова. Мы правялі своеасаблівую вучобу дырэктараў некаторых школ, што і стануць базай, з іх мы і пачнём работу.

Але праграма гуманізацыі і нашы рэкамендацыі станоўча ўспрынялі не ва ўсіх школах. Ёсць і заўзятыя праціўнікі.

Канешне, мы ўзяліся за глабальную праблему, якая звязана з ломкай застарэлай псіхалогіі педагогаў, псіхалогіі аўтарытарнай, накіраванай на падаўленне асобы. Як навучыць інтэлігентнасці, яе немагчыма выхаваць імгненна. Так і гуманным адносінам як навучыць, калі гэтага няма ў чалавеку, педагогу?

Мы «запусцілі» ў школы такое пісьмо, у якім запрасілі да размовы аб правах вучняў. Думкі былі вельмі неадназначныя. Можна было б з пазіцыі сілы ўвесці некаторыя правы, бо так прымушае жыццё. Але мы адмовіліся ад насілля. Хай школы пакуль самі выбіраюць.

**Тамара Руберт,** дырэктар СШ № 36.

— Мне здаецца, гуманізацыя — праблема і эканамічная, і сацыяльная. Гэта яе супрацьлеглыя грані. І патрэбна яна, напэўна, не столькі сёння, калі мы маем такі прагны падыход да рынку, а мо праз дзесяткі гадоў, калі ўсё грамадства будзе пранізана гуманнасцю, як мы разлічваем, бо іншага шляху няма. Нам усім зараз трэба добра зразумець мэты і сэнс гэтай праблемы як важнага боку жыцця чалавека. Стварыць умовы для гуманізацыі, даўшы магчымасць кожнаму ведаць свае здольнасці, як іх можна развіваць і рэалізаваць. Вельмі важныя тут узаемаадносіны ў школьным калектыве, узаемнае ўменне слухаць, чуць, выслухаць, зразумець, прыняць, суперажываць і аддаваць. Усё гэта «зліваецца» ў чалавекалюбства, уменне спасцігаць прыгажосць душы сваёй і чужой. Калі гэта становіцца меркай жыцця калектыву, тады тыя гуманныя правы, што былі прапанаваны школьнікам, ажыццяўляюцца самі па сабе: і свабодны выбар формы, і класнага кіраўніка, і настаўніка.

Але самая вялікая праблема, прызнаемся, не ў дзецях, а ў псіхалогіі настаўніка, дырэктара. Яны праяўляюць не найлепшыя і далёка не гуманныя свае якасці ў школе. У такія ўмовы паставіла іх і грамадства. Але ўсё ж трэба мяняць менавіта ўласны ўнутраны настрой на стварэнне дабра. Вось мы ў школе пачалі гэта з вывучэння сусветнай мастацкай культуры. З чаго пачынаўся сам чалавек, у чым яго высокае прызначэнне? Мастацтва было, па сутнасці, заўсёды гуманнае. Але распараджаліся ім чамусьці негуманна. Вось праз яго і адкрываецца, лічу, шлях да стварэння гуманнай школы.

Трэба таксама ствараць нацыянальнае, менавіта ствараць на базе інтэрнацыянальнага. І ўсвядоміць у сабе нацыянальнае. Настолькі, каб стаць патрыётамі.

**Міхаіл Ільін,** намеснік начальніка гарадскога ўпраўлення адукацыі.

— У горадзе абазначылася дакладная лічба паступлення ў ВНУ — каля 40 працэнтаў выпускнікоў. Атрымліваецца, што астатнія пойдуць у сферу матэрыяльнай вытворчасці. Рынак патрабуе прафесіяналізму, хто не мае спецыяльнасці, прападзе. І ні пра якую гуманнасць не можа быць размовы, калі не даць пэўныя навыкі дзецям.

Да гэтага часу развіваліся таксама вельмі патрэбныя веды: матэматычныя, фізічныя, гуманітарныя, моўныя. Але ж не ўсім дадзены такія здольнасці. Таму школа павінна стаць шматпрофільным дыферэнцыраваным комплексам. Некаторыя лічаць, што рэальная адукацыя толькі для тых, хто ні на што не здатны. Зусім не: у гэтых класах ёсць цудоўныя дзеці, але іх здольнасці звязаны з уменнем выпрабляць, канструяваць, мадэліраваць. Такія выпускнікі будуць паступаць у тэхнічныя ВНУ, ПТУ, тэхнікумы ці зоймуць чаргу на рынку працы. Цяпер у рэальных класах займаюцца дзве тысячы чалавек. Менавіта стольκі, колькі магло застацца на вуліцы пасля рашэння аб конкурсным паступленні ў 10 клас. Тое, што яны засталіся ў школе — гуманная акцыя. Мы яшчэ правядзём сацдаследаванні сярод бацькоў, каб лепш даведацца іх думку на гэты конт. Але галоўнае, што гэта падтрымліваюць самі дзеці. Вось вам і гуманізацыя.

**Генадзь Дылян.**

— Я хачу падтрымаць Тамару Міхайлаўну ў тым, што амаль усё залежыць ад настаўнікаў. Быў нядаўна ў адной са школ, дзе дырэктар адрапартавала мне, маўляў, мы добра папрацавалі: нам удалося ўбраць са школы 95 выпускнікоў 9 класаў, а з самых горшых мы зрабілі два рэальныя класы. Такі падыход ідэю рэальных класаў проста «зняверае». Ва ўсіх дзяцей без выключэння ёсць пэўныя схільнасці. Бяда, калі пра гэта забываюцца педагогі.

**Таццяна Кошалева,** намеснік дырэктара школы-гімназіі № 195.

— А мяне некалькі насцярожвае гэтая кампанія — барацьба за гуманізацыю. Гэта ж не калектывізацыя, якую можна правесці, напрыклад, за пяць гадоў і адрапартаваць аб выкананні.

Я паглядзела ў слоўнік Даля, што такое гуманізацыя. Гуманнасць, чалавечнасць, добразычлівасць, павага, што ўласціва сапраўды інтэлігентнаму чалавеку. І калі мы дагэтуль не любілі дзяцей, не адносіліся да іх паважліва, значыць, мы не былі інтэлігентнымі людзьмі. А калі так, то тыя пяць ці колькі гадоў, што будзе весціся барацьба за гуманізацыю, не выратуюць, не дапамогуць.

Мы, калі стваралі гімназію, стараліся знайсці сярод настаўнікаў інтэлігентных людзей. І гэтак жа выхоўваць вучняў, бо толькі тады будзе ў іх ставаць і чалавечнасці, і павагі да іншых. Выхаванне інтэлігентнасці стала для нас галоўным. Мы пастараліся з пустам афарміць школу, без палітыкі і павучэнняў. Пазакласная работа таксама па класічным варыянце—дзень Гімназіста, Пушкінскія дні, Ламаносаўскія, Шэкспіраўскія. Вядзём дзяцей да вытокаў рускай інтэлігентнасці, не падзяляю гэтыя паняцці з беларускім нацыянальным, таму што гэта агульнае багацце. А ў вучэбны курс мы ўвялі этыку, эстэтыку, логіку, рыторыку, лацінскую мову — элементы класічнага выхавання.

У нас вы ніколі не пачуеце павышаны тон размовы. Часта праводзім анкетаванне, каб даведацца, што думаюць аб настаўніку вучні. Гэта мы не абвяшчаем, а прымаем да ведама. І яшчэ галоўным лічым — выхоўваць сваім прыкладам.

**Валянціна Агеева,** намеснік дырэктара СШ № 195.

— Так, мы ў школе вядзём работу па гуманізацыі ўжо тры гады, пачалі яе яшчэ не ведаючы, што будзе абвешчаны такі накірунак. Нас падвёў да гэтага час, бо нельга ўжо было вучыць па-старому. У рабоце нам важна, што хацелася б ад школы бацькам. І мы правялі анкетаванне і паставілі перад настаўнікамі выказаныя думкі як задачу. У канцы года анкета паказвае, што не атрымалася.

Мы стараемся не камплектаваць вялікія класы, хоць гэта цяжка. Мы прымаем у гімназію па адбору, таму дзеці тут здольныя. Стараемся мець адпаведна і моцных настаўнікаў. Практычна кожны год мы камусьці просім пайсці ў іншую школу. Пакуль атрымоўваецца. І настаўнікамі пачатковай школы ўспрымаецца добраахвотна. Мы не выкідваем, бо гэта не гуманна. Проста настаўнік сам адчувае, што не спраўляецца.

**Генадзь Дылян.**

— Ведаеце, нас часам папракаюць, што мы патрабуем гуманнасці да дзяцей, а не кажам аб гуманнасці да настаўнікаў. Прывяду жудасны прыклад. Зусім нядаўна група вучоных правяла абследаванне вучняў трэцяга класа адной са школ на ўзровень інтэлекту і ўстанавіла восем дзяцей з высокім узроўнем інтэлекту. Усе гэтыя вучні вучыліся на «два» і «тры». І калі да іх настаўніцы, натуральна, прад'явілі прэтэнзіі, то ўсе довады былі: гэта вінаваты гены, не яна. А яна ж, па сутнасці, «загубіла» васьмёра дзяцей. Калі ўдасца гэтых дзяцей «выцягнуць» на якійсьці нармальны ўзровень, гэта будзе здорава. У большасці ж выпадкаў такія дзеці ўжо не «ўзнімаюцца». Дык як ставіцца да такога настаўніка? Гуманна? Вось аб чым размова. Гэта вельмі тонкае пытанне.

Настаўнікі ў асноўным не прымаюць мяркуемую кантрактную сістэму прыёму на работу, тады такое не пройдзе без пакарання. Кантрактная аснова абараніла б вучняў. Хоць мне, шчыра кажучы, цяжка сказаць, каго трэба больш абараняць.

**Святлана Кузьміна,** дырэктар ПТВ № 222.

— Лічу, што вось так ужо вольна распараджацца лёсам настаўніка нядобра. Побач заўсёды ёсць моцныя педагогі, чаму не даць тэрмін выправіць заганы, павучыцца методыцы выкладання. Да таго ж наогул трэба ствараць у сябе моцную метадычную базу. Мы вось увялі ў сябе пасаду ўласнага метадыста. Гэта таленавіты педагог, самародак, энтузіяст. Спадзяёмся, што гэта нам з часам дапаможа ўсім працаваць высокапрафесійна. Вельмі карыснае і анкетаванне.

А тое проста прыкра, што столькі гадоў мы, педагогі, мякка кажучы, бяздзейнічалі. А нам жа ніхто не перашкаджаў паважаць вучня, адзін аднаго. Ніхто. Відаць, многія з нас проста страцілі сябе. І цяпер нам трэба зразумець, што не маем права інакш працаваць — як толькі гуманна.

**Генадзь Дылян.**

— Ужо двойчы прагучала — анкетаванне. Але заўсёды педагогі спрачаліся, ці добра, калі іх ацэньваюць вучні. Здаецца, калі гэтым займецца спецыяліст — псіхолаг, то можна ісці па такім шляху. У рэшце рэшт педагогі павінны пачуць пра сябе шчырыя думкі вучняў. Але бяда ў тым, што працуе псіхалагічная служба не ўсюды. Няма і каардынацыйнага цэнтра службы. А роля ж псіхолага ў гуманізацыі школы вялізная.

І яшчэ хачу сказаць, што мы не разглядаем гэтую справу як «барацьбу» (так тут прагучала) за гуманізацыю. Наша мэта больш сціплая: пачаць, увесці элементы гуманізму, бо больш так жыць немагчыма. Гэта калечыць дзяцей. Калісьці трэба было пачынаць. Калі нешта «пасеялі» — добра, калі ёсць практычны вынік — вельмі добра. А наогул гэтая задача — на перспектыву.

**Людміла Івашчанка,** метадыст гарадскога інстытута ўдасканальвання настаўнікаў.

— Калі анкетаванне — справа псіхолагаў, то ў нас ёсць свае, педагагічныя тэсты, якія не патрабуюць спецыяльнага ўмення. Мы маем у інстытуце гэтыя педагагічныя дыягностыкі. Яны простыя. На 1—2 мінуты. Урок заканчваецца — хуценька праводзіцца дыягностыка.

**Наталля Крылова,** дырэктар гарадскога інстытута ўдасканальвання настаўнікаў.

— Мне б сапраўды не хацелася, каб мы гаварылі аб «барацьбе» за гуманізацыю. Гэта не стасуецца з самой гэтай ідэяй, з мэтамі, якія ставілі, калі ўрэшце задумаліся над тым, у якіх умовах існуём, жывём, якое пакаленне выхоўваем, і хто яго выхоўвае. Мы ж нездарма назвалі нашу ідэю: «Гуманізацыя адукацыі ва ўмовах крызіснага стану грамадства». Мы б хацелі, каб усе нашы сустрэчы, семінары дапамаглі настаўніку паглядзець на сябе збоку як на інтэлігента і аказаць педагогу практычную дапамогу. Каб ён не страціў сябе як асобу за ўсімі цяжкасцямі нашага быту, каб не страціў чалавечы твар, каб ішоў да вучня і ведаў, што калі ўжо ён пайшоў некалі ў педагагічную навучальную ўстанову, то не мае права быць няшчасным. Няхай нават грамадства прымушае быць такім, але ён не мае права. Бо няшчасны не можа выхаваць шчаслівых людзей.

У нас у інстытуце займаецца каля 500 чалавек. І мы сустракаемся з такой азлобленасцю, агрэсіўнасцю, незадаволенасцю. Ну нельга, каб у такім стане чалавек ішоў да дзяцей! Трэба ўсё зрабіць для таго, каб настаўнік сапраўды адчуў сябе патрыётам, як тут казалі, як ні дзіўна гучыць цяпер гэтае слова. Патрыётам і сваёй прафесіі, што б там ні было.

Вось апісанне: «Ідзе жанчына ў стаптаных чаравіках, з цяжкай сумкай, патухлым поглядам. Хто гэта? Народны настаўнік». А напісаў так Горкі ў 1893 годзе, калі настаўнікі былі паважанымі людзьмі. Дык вось не толькі ад матэрыяльнага стану настаўніка залежаць адносіны да яго бацькоў, дзяцей. А ад таго, наколькі ён на сваім месцы. Так, грамадства вінаватае перад настаўнікам, бо абавязана яму дапамагаць. Але ў настаўніка павінна быць пачуццё ўласнай годнасці. Ён не мае права апусціцца да ўзроўню нашага цяперашняга жыцця, абавязаны быць вышэй. Гэта маё перакананне.

**Генадзь Дылян.**

— Маленькая дэталь. Ні разу не сустракаў, каб настаўнік выказаў думку аб тым, чаму ніхто не падтрымлівае іх патрабаванні. Трэба паглядзець на сябе. Можа, мы і ўяўляем з сябе тое, за што змагацца ніхто не хоча?

**Вольга Кузьміч,** старшыня камісіі Мінгарсавета па адукацыі і выхаванню.

— Вось мы заўсёды праводзім паралель: настаўнік — вучань. А я цяпер на гэтай пасадзе стала праводзіць іншую: дырэктар — настаўнік. Тут і трэба шукаць усе адказы на пытанні гуманізацыі, якая павінна быць нормай жыцця. Хто кіруе школай? Чалавек. І ад яго залежыць, якія настаўнікі яму падначалены. А настрой, атмасфера ў школе перадаецца дзецям. Гэтае суладдзе залежыць ад кіраўніка. А тое, што кіраўнікі нашы сёння не ўсе на месцы — факт.

Я чытаю скаргі адну за адной. Што часам вытварае дырэктар з настаўнікам. У мяне на стале — стос гэтых скаргаў. І кантрактная сістэма, што з'явіцца, зусім заб'е настаўніка. Гэта будзе вельмі небяспечны бізун. Ужо сёння кожны баіцца за месца. Таму ва ўгоду кіраўніку настаўнік маўчыць, сцяўшы зубы, каб не страціць тое, што мае.

Вось як нам выхоўваць кіраўнікоў? Тут трэба падумаць, бо сорам выхоўваць на такой пасадзе. Гэта вострая праблема. Як да яе падысці?

А вось такі прыклад. У Фрунзенскім раёне з'явілася ідэя нейкай дэмакратычнай арганізацыі ўзамен камсамола. Дзеці мне званяць, пытаюцца: якая гэта дэмакратыя, калі дзве гадзіны трымаюць, не выпускаюць са школы, пакуль усе не запішуцца?

І яшчэ. Сёння, пакуль мы не будзем з'яднаны адной ідэяй аднаўлення нацыянальнай самасвядомасці: хто мы, што мы, хто нашы дзеці, у якім краі жывём, дзеля чаго жывём, якой будзе Беларусь — ні на якія вяршыні не выйсці. Тое, што зрабілі з намі за 70 гадоў — сказваецца сёння. Усё ж павінна быць паралель паміж рускай і беларускай культурамі. Каб паказваць дзецям: вы дзеці зямлі гэтай, вы настаўнік гэтай зямлі, тут жывяце, што рабіць для таго, каб незалежная Беларусь стала на ўзровень развітых краін. Выхаваць годнасць чалавечую.

А гуманнасць залежыць ад таго, наколькі гуманны чалавек сам.

**Наталля Крылова.**

— Дзесьці прачытала, што былі б зняты ўсе пытанні выхавання і ў школе, і ў сям'і, калі б удалося выхаваць адно пакаленне сапраўдных педагогаў, выхавальнікаў. А мы, па сутнасці, у інстытуце «латаем дзіркі» вышэйшай адукацыі. Да нас прыходзяць дарослыя асобы, якія шмат што не спасцiглі ў вышэйшай школе, мы гэта выправіць практычна не можам. Што дзіўна, мы правадзілі тэстыраванне, аказалася, што ў нашым настаўніку адсутнічае талерантнасць, уменне бачыць, разумець, паважаць іншую думку, ён мае завышаную самаацэнку. Здавалася б, мы гэткія разняшчасныя, а ацэнка сябе ў педагогаў завышаная. Гэта трагедыя, што адсутнічае інтэлігентнасць.

**Васіль Бядулін,** дырэктар СШ № 143.

— А мы палічылі, што гуманізацыя немагчыма без дыферэнцыяцыі навучання, стварылі аўтарскую школу поўнага дня. Так мы яе называем. Увесь навучальны працэс мы разбілі на тры ступені. На першай — з першага па чацвёрты класы — вывучаем схільнасці дзяцей, ствараем умовы для іх развіцця і даём разам з псіхолагам і ўрачом — з улікам жадання, бацькоў і вучняў — характарыстыку-рэкамендацыю для паступлення на факультэты другой ступені. Пры пераходзе на трэцюю ступень кожны здае экзамены па базавых прадметах адпаведнага факультэта. Прыём тут конкурсны. А факультэты: камерцыйны, тэхнічны, прыродазнаўчы, моўны. Такім чынам мы дапамагаем вызначыць вучням сваю індывідуальнасць.

У нас ёсць і рэальныя класы, прычым яны ствараюцца з пятага класа. Дарэчы, у іх пайшлі і лепшыя вучні. Самі пайшлі.

Таксама працуюць клубы, гурткі, секцыі. Школа адкрыта з сямі раніцы да васьмі вечара. Улічаны інтарэсы кожнага вучня. Вось тое галоўнае, — што яны маюць права выбара. Мы далі ім такое права.

**Генадзь Дылян.**

— Безумоўна, ваша мадэль школы «іграе» на гуманізацыю.

**Вольга Кузьміч.**

— А як са школьнай формай, таксама выбар?

**Васіль Бядулін.**

— Як хочуць. Але ў асноўным вучні «пакажуць» сябе і зноў апранаюцца ў форму. Не трэба давіць. Дарэчы, новую структуру ўвогуле ўсе ў нас ўспрынялі добра. Але ёсць праціўнікі. І нічога з імі не зробіш. Гэта не творчыя людзі. Ім лягчэй даецца абавязалаўка. А каб самі што зрабілі, то не. Яны нават судзіцца са мной хочуць. Што ім да дзяцей. Але гэта тры чалавекі на школу. Каб абараніць нашу і падобныя школы, ім патрэбен асобны статус.

**Генадзь Дылян.**

— Яшчэ хачу вярнуцца да неабходнасці псіхалагічнай дапамогі школе. Мы, па сутнасці, непісьменныя ў псіхалогіі дзяцей, таму задумалі стварыць псіхолага-педагагічную структуру ў горадзе. У некаторых раёнах ужо складаецца сістэма псіхалагічнай службы, гарадской жа пакуль няма. А патрэбна, каб у кожнай школе быў псіхолаг, для каардынацыі — вельмі невялікая структура ў горадзе. Гэта наша мэта на бягучы навучальны год. Хацелася б ведаць думкі, трэба гэта ці не.

**Наталля Крылова.**

— Лічу, што трэба. У нас у інстытуце адзін псіхолаг. Яго літаральна разрываюць. І бацькам кансультацыі дае, і педагогам. Другі псіхолаг, якога бяром, не вырашыць праблему, патрэбна служба. Мы гэта добра адчуваем, бо да нас шмат звяртаюцца.

**Васіль Бядулін.**

— Каб даць рэкамендацыю, куды лепш пайсці школьніку, выпускніку, патрэбен псіхолаг. Я пераканаўся ў гэтым.

**Генадзь Дылян.**

— У горадзе мы зробім гэта. І не будзем прасіць грошы для ставак, зробім за кошт рэзерваў школ.

**Ала Фралова,** начальнік аддзела агульнай сярэдняй адукацыі і дашкольнага выхавання.

— Служба вельмі патрэбна, бо самыя складаныя калектывы — педагагічныя. Гэта бяда педагогаў больш, чым віна, бо не валодаюць навыкамі зносін. А законы зносін яны павінны ведаць: як весці дыскусію, як зняць стрэс, як валодаць сваімі эмоцыямі. Калектывы ж ў асноўным жаночыя, часта ўзнікаюць канфлікты. Адносіны і паміж вучнямі бываюць складаныя. Бо часта бываюць дзеці, якіх проста цкуюць у вучнёўскіх калектывах. Тут выратуе псіхолаг. Яшчэ мы неяк іх выпусцілі з-пад увагі бацькоў. Калісьці быў бацькоўскі ўсенавуч, цяпер няма. І ў бацькоў няма ведаў па псіхалогіі. Трэба ведаць, якой яны хочуць бачыць школу. Каб не толькі хатнія размовы вяліся.

**Генадзь Дылян.**

— Гаварыць пра школу будучага без актыўнага ўдзелу бацькоў наогул немагчыма.

**Ала Фралова.**

— Але ж пакуль яны маўчаць. І не толькі таму, што баяцца за магчымае «праследаванне» дзяцей, а проста яны вельмі пасіўныя. Але ж вельмі цікава, як яны бачаць узнятую намі праблему?

**Гэтую размову пачалі прыхільнікі гуманізацыі школы, яе пачынальнікі і энтузіясты. Мы спадзяёмся, што бацькі, якія, безумоўна, зацікаўлены, каб іх дзеці навучаліся і выхоўваліся ў атмасферы дабра і ўзаемнай павагі, сапраўды працягнуць яе. А, можа, і самі школьнікі не застануцца абыякавымі да праблем, што іх датычацца непасрэдна. Хто з вас, паважаныя чытачы, наступны павядзе размову!**

